каторыя гандлёвыя і экан. карысьці, а галоўна—забясьпечваў сякія такія правы для польскай меншасьці ў Нямеччыне. Польшч пайшла на пакт з Нямеччынай яшчэ і з тэй прычыны, што некаторыя францускія палітыкі зусім сур'ёзна абгаварвалі справу аддачы немцам гданскага карыдору, каб толькі іх супакоіць. Ня хочучы дапусьціць, каб француская палітыка праводзіла свае пляны коштам Польшчы, Польшч сама пашукала згоды з Нямеччынай...

Гэтакія ёсьць прычыны сяньняшняга польска - францускага спору. Але мыляўся-б той, хто-б думаў, што гэты спор нарушыў у чым *сутнасьць* польска-франц. саюзу. Сутнасьць і асновы яго асталіся такія самыя, а нават апошнія падзеі паказваюць, што гэты саюз узмацоўваецца. Доказам гэтага ёсьць пазалеташняя француская пазыка дляПольшчы на ўваружэньне, леташні прыезд мін. Дэльбо ў Варшаву, чуткі аб новай пазыцы таксама на ўваружэньне, а асабліва на стварэньне ў трыкутніку паміж Віслай і Санам вялікага прамысловага цэнтру, які мае служыць прадусім ваенным мэтам. Праца там ужо ідзе поўным ходам, а некаторыя гарады, як піша польская прэса, растуць як новыя Гдыні.

Характэрная рэч, што ў справе даньня Польшчы пазалеташняй пазыкі выявілася поўная салідарнасьць франц. грамадзянства, ад правіцы да лявіцы, бо за пазыку галасавалі ўсе паслы ад манархістаў да камуністаў. Трэба яшчэ адзначыць, што гэта адбывалася пры ўладзе „людовага“ фронту ў Францыі, які да Польшчы меў заўсёды свае засьцярогі і які пэўнеж ведаў, што Польшч гэтай пазыкі і ўваружэньня ня скіруе проціў саюзьнікаў Францыі. Гэтак сама аднагалосна польскі сойм і сэнат вынясьлі пастанову ўцьвярдзіць пазыку.

З гэтага відаць, што саюз з Францыяй ёсьць і надалей моцным. Можна нават сказаць, што ён ёсьць галоўнай асновай польскай палітыкі, якбы вуглавым яе каменем. Нарушыць гэтага каменя не пасьмее ніводзен польскі міністар, бо гэта гразіла-б нарушэньнем усяе сыстэмы польскай загр. палітыкі. Пры ўсім гэтым трэба аднак сьцьвердзіць, што і цяпер польская палітыка хоча быць незалежнай ад францускай. І так, падчас бытнасьці мін. Дэльбо ў Варшаве, мін. Бэк, як падае прэса, быў заявіўшы францускаму міністру, што Польшч ня мае даверу да агульных (саборных) саюзаў, гварантуючых граніцы і бясьпеку, а стаіць на грунце пасобных дагавораў з кожнай дзяржавай. Ліга Народаў, паводле пагляду польскай палітыкі, з яе параграфамі і саборнымі саюзамі не гварантуе бясьпечнасьці дзяржаў, якія ў яе ўваходзяць, доказам чаго ёсьць Абісынія, Кітай і інш. Польская прэса піша, што Ліга Народаў, калі трэба будзе бараніць свайго сябру ад напасьніка, не прышле на помач ніводнага жаўнера. Што другое верны саюзьнік: ён на падставе пакту і ўласнага інтарэсу прыдзе на помач. Польскія паліт. дзейнікі, пасьля выхаду з Лігі Італіі, заявілі, што Ліга Народаў цяпер ня мае *агульнага* характару, а зьяўляецца Лігай толькі аднаго блёку дзяржаў, а Польшч ня можа лучыцца з ніякім блёкам... Дзеля такіх паглядаў польскай палітыкі на Лігу Народаў разыйшлася была чутка аб магчымым выступленьні з яе і Польшчы.

Другой справай з якой польская палітыка не згаджаецца з францускай, ёсьць адносіны да Саветаў. Далёкая Францыя не адчувае небясьпекі з боку расейскага камунізму; каб дайсьці да яе, бальшавікі муселі-б прайсьці Польшч і Нямеччыну, а гэта немагчыма. Што другое Польшч. Яна баіцца камунізму, як свайго найбліжэйшага і грознага суседа, які ўскрашае даўнейшы расейскі імпэрыялізм і гразіць незалежнасьці польскага народу. Хоць Польшч проціў камуністычнай улады ў Расеі не выступае (камуністычная ўлада ў Расеі нават ёсьць карысьнейшая для Польшчы за якую іншую, бо аслабляе Расею і ня мае прэтэнсіі да беларускіх і ўкраін. зямель пад Польшчай), то ў сябе Польшч нішчыць камунізм усімі сіламі. Гэтага ня можа зразумець Францыя, дзе камуністычная партыя зусім легальная, так як і ўсе іншыя партыі. Апроч гэтага Польшч стараецца адцягнуць Францыю ад саюзу з Саветамі, высоўваючы такія довады: Польшч савецкай арміі праз сваю тэрыторыю ня пусьціць, значыць, савецкая помач пры франц.-нямецкай вайне ёсьць нярэальна; камуністы няздольны падаць скутэчную і рэальную помач, бо вынішчаюць самі сябе: калі гэтак яны паступаюць ў мірным часе, то ў ваенным будуць яшчэ болей... Скутак гэтых довадаў такі, што Францыя, як чуваць, адхіляецца ад Саветаў і прыхіляецца да Польшчы, ўважаючы яе, так як і даўней, за свой надзейны і верны бастыён на ўсходзе Эўропы, пэўнейшы чым Саветы. Цяпер для нас будуць зразумелы напасьці наПольшч сав. прэсы і радыя...

Значыць, Польшч апірае і надалей сваю загр. палітыку на саюзе з Францыяй, а Францыя, аддаляючыся ад Саветаў, хоча абаперці сваю палітыку на Польшчы. Аб гэтым трэба заўсёды помніць, абсэрвуючы польскую загр. палітыку. Праз саюз з Францыяй і добрыя адносіны з Нямеччынай і Італіяй Польшч імкнецца да стабілізацыі свайго палажэньня паміж двама блёкамі. Ці ёй гэта ўдасца?

*А. В.*

## Пасьля працэсу над групай Дэмбінскага.

Ад 15 да 22 сьнежня м. г. адбываўся ў Вільні цікавы працэс над групай Дэмбінскага і Ендрыхоўскага, якая канцэнтравалася каля закрытых польскіх часапісаў „Poprostu“ і „Karta“, выдаваных у Вільні, ў 1935-36 г. г. Пракуратура ў гэтых часапісах а також ў дзейнасьці групы дагледзела цяжкія праступкі: змову з мэтай насільнай зьмены ладу ў Польскай Дзяржаве, імкненьне да адарваньня ад Польшчы ўсходніх ваяводзтваў, сувязь з камуністычнай партыяй—і абвінавацiла групу з арт. 97 § 1 у зьвязку з арт. 93 К. К. Пасьля тыднёвага працэсу быў вынесены прысуд, на падставе якога павадыры групы: Дэмбінскі і Ендрыхоўскі дасталі па 4 гады турмы кожны з адабраньнем правоў на 5 гадоў, а рэшта: Жэромская, Барысэвіч, Шусс, Путрамант былі апраўданы. Прысуд быў вынесены на падставе арт. 96 у сувязі з арт. 93 за сьвядамае пашыраньне рэвалюцыйных настрояў, прыгатаўляючых да зьмены сучаснага палажэньня (do zbrodni stanu).

Працэс быў цікавы тым, што на ім падсудныя, сьведкі і пракурор парушалі часта беларускую справу, да якой „Poprostu“ і „Karta“ стараліся падыйсьці з спагаднага боку. На судзе свой спогад для беларускай справы выяўляў асабліва Дэмбінскі, які некалькі разоў крытыкаваў цяперашнія адносіны польскай палітыкі да беларусаў і казаў, што беларускай справы зьняць з парадку дня ўжо ня ўдасца і яе трэба так ці інакш вырашыць. Найлепшае вырашэньне, паводле Дэмбінскага, было-б такое, каб даць беларусам усе належныя ім правы, нават у форме шырокай аўтаноміі, не нарушаючы аднак цэласьці Польскай Дзяржавы.

Хто такі Дэмбінскі? Родам з Ашмяншчыны, паляк, сын чыгуначнага машыніста, зжыўся ад малых гадоў з беларускай стыхіяй, адчуў нядолю народу, быў гарачым і веручым каталіком, належаў да Мар'янскай садаліцыі і да каталіцкай арганізацыі „Odrodzenie“ на вілен. Унівэрсытэце, меў культ да марш. Пілсудскага. „Kurjer Wil.“ (23. XII. 37) пытаецца, дзе прычына такой эвалюцыі Дэмбінскага і што давяло яго да зьмены пракананьняў, кірунку працы і ўрэшце да працэсу? Ці віна ў гэтым толькі Дэмбінскага, ці можа былі яшчэ іншыя прычыны гэтакай зьмены? — пытаецца „Kurjer Wil.“, прыгэтым даходзіць да вываду, што муселі быць нейкія *прычыны ў самой атмасфэры*, ў якой узрасьлі і зьвіхнуліся та-

## У 20-тыя ўгодкі разгону Усебеларускага Кангрэсу.

Уначы з 30 на 31 сьнежня 1937 году (па новаму стылю) мінула 20 гадоў ад часу разгону бальшавікамі Усебеларускага Кангрэсу, які быў скліканы Беларускай Радай у Менску, каб вырашыць справу самаазначэньня Беларускага народу. Зьезд быў скліканы на 18 сьнежня н. ст. з такім парадкам дня:

1) Міжнароднае становішча Беларусі (вайна і мір);
2) Зямельная справа;
3) Палітычны лад у Беларусі;
4) Стварэньне органу краёвай улады.

18. XII. Кангрэс быў адчынены Ракам-Міхалоўскім, як старшынёю Бел. Вайсковае Рады. Выслухаўшы шматлікія прывітаньні ад беларускіх і чужых арганізацыяў, Кангрэс прыступіў да працы. Былі выбраны адумысловыя камісіі дзеля падгатоўкі рэзалюзыяў. Першы і другі пункт парадку дня не напаткаў большай труднасьці ані з боку ўчасьнікаў Кангрэсу, ані з боку камуністычнай улады, якая прабывала ў Менску і была ведама пад назовам „Областного Исполнительного Комитета Западной Области і Фронта“ або г. зв. Обліскомзапу. Каліж аднак Кангрэс прыступіў да 3-га пункту і падаў на галасаваньне апрацаваную Радай Кангрэсу рэзалюцыю аб рэспубліканскім і дэмакратычным ладзе на Беларусі і ўтварэньні органу краёвай улады, камуністы акружылі дом, дзе адбываўся Кангрэс і пры помачы стрэльбаў, кулямётаў і бранявікоў разагналі яго. Разгон Кангрэсу так апісвае выходзячая тады ў Менску „Вольная Беларусь“ (№ 36, 1917 г.):

„Уначы Рада зьезду скончыла апрацоўваць рэзалюцыю. Старшыня пачаў яе чытаць перад усім Зьездам. У гэты мамэнт падыйшлі да стала прэзыдыюму два салдаты і назваўшы сябе, першы — камісарам „Западнай Обласьці“, а другі —начальнікам менскага гарнізону, сказалі, што прыйшлі арыштаваць прэзыдыюм і разагнаць Зьезд. Тады, пры іх-жа, старшыня Зьезду агаласіў першы пункт рэзалюцыі, дзе Беларусь абвяшчаецца Рэспублікай. Бадай што ўвесь Зьезд аднастайна зацьвярдзіў гэты пункт.

„Раптам аднекуль пачуўся голас: Таварышы, наш дом акружаны войскам! Каля яго стаяць кулямёты і бранявікі!.. Пры гэтых словах у залю ўвайшлі ўзброеныя салдаты. Агульнымі сіламі іх выцягнулі за дзьверы, а пасьля гукаў марсэльезы нехта голасна сказаў: Браты беларусы! Мы бачылі жандармаў Мікалая II, але сягоньні ўбачылі жандармаў у свабоднай рэвалюцыйнай старане, пад маскай бальшавіцкіх камісараў, на вольным зьезьде вольнага народу”!

„Ізноў уварваліся салдаты,разьбіраючы барыкады з крэслаў і зэдлікаў, накіданыя дэлегатамі зьезду, сялянамі і салдатамі. Пад сьпевы жалобнага маршу выводзілі арыштаваны прэзыдыюм і шмат каго з відных працаўнікоў зьезду. Арышт цягнуўся ўсю ноч. Прыклады працавалі направа і налева. Паволі пусьцела заля“...

Гэтак апісвае разгон Кангрэсу „Вольная Беларусь“!

А другі навочны сьведка, Пётра Крэчэўскі, сябра прэзыдыюму Кангрэсу, ў „Замежнай Беларусі“ (бач. 52-53) гэтак апісвае разгон: „Калі бальшавікі ўбачылі, што большасьць зьезду стаіць за самастойную рэспубліку, рашылі Зьезд разагнаць сілаю. Бальшавіцкія камісары — Крывашэйн і Рэзаўскі— п'яныя, зьявіліся ў залю Зьезду якраз у тойсамы час, калі пасьля доўгіх дэбатаў, прыблізна каля часу ночы, меліся прыступіць да галасаваньня рэзалюцыі і абвесьцілі Зьезд распушчаным, а прэзыдыюм арыштаваным. Будынак, дзе адбываўся Зьезд, быў акружаны бранявікамі і кулямётамі. Падняўся страшэнны гвалт, бальшавіцкія салдаты са срэльбамі стараюцца ўварвацца ў залю Зьезду, дэлегаты строяць барыкады з крэслаў і сваімі грудзьмі абараняюць Зьезд і прэзыдыюм Зьезду, які, ня гледзячы на забарону камісара, вядзе далей сход і галасуе рэзазюцыю”.

Рэзалюцыя, за якую бальшавікі разагналі Кангрэс, гаварыла: аб праве ўсіх народаў на самаазначэньне, абвешчанае расейскай рэвалюцыяй; аб рэспубліканска-дэмакратычным ладзе на Беларусі, і аб утварэньні органу краёвай улады са складу Кангрэсу. І за гэтую рэзалюцыю разагналі Кангрэс тыя, якія заўсёды вясьцяць свабоду для ўсіх народаў! Гэтак бальшавікі спынілі *першую* спробу Беларускага народу да самаазначэньня!

* * *

Гэта было 20 гадоў таму ў Менску, сталіцы Беларусі. Некаторыя могуць падумаць, што разгон Кангрэсу — гэта была толькі памылка або недаразуменьне паміж двама прэтэндэнтамі да краёвай улады на Беларусі, але цяпер камуністычная ўлада лепшая і творыць у Беларусі сапраўдны беларускі дом. Аднак апошнія падзеі паказваюць, што камуністычная ўлада вядзе цяпер яшчэ горшую лінію, чым 20 гадоў таму, бо тады толькі арыштоўвала беларускіх дзеячоў, а цяпер ссылае іх у глыб Расеі, Сібіру, Туркестану, на Салоўкі, або проста „ліквідуе“ іх.

Разглядаючы гісторыю гэтых 20-ці гадоў, трэба сьцьвердзіць, што больш-менш свабодна беларусы ў Сав. Беларусі маглі працаваць над разьвіцьцём сваей культуры ў часе гэтак званага НЭП-у (Новай Эканамічнай Палітыкі), г. зн. да 1928 г., ад 1929 г. пачынаецца жорсткі прасьлед бел. нацыянальных дзеячоў, якіх камуністы празвалі нацыянал-дэмакратамі, або скарочана „нацдэмамі“.

*Пачалося* 24.III. 1929 г. ад выключэньня з групы „Полымя“ ведамага пісьменьніка і літаратурнага крытыка *Алеся Дудара* (Тодара Глыбоцкага) „за накіраваньне творчасьці супроць савецкай улады і кампартыі“. Выключэньне падпісалі: Ц. Гартны, як старшыня, Колас і Чарот, як сябры і Сташэўскі, як сакратар. (Цяпер усе яны, апроч Коласа, арыштаваны).

Дня 31.VIII.29. звольнены са становішча камісара асьветы *Баліцкі*. 17.IX. звольнены ад абавязкаў заступніка камісара асьветы *Жылуновіч* (Ц. Гартны). Тагож самага дня звольнены ад абавязкаў рэдактара „Сав. Беларусі“ *М. Чарот* (пасьля „Сав. Беларусь“ была закрыта, а ў 1937 г. пачала выхадзіць парасейску „Советская Белоруссия“).

Дня 10.X. звольнены ад абавязкаў камісара земляробства *Адамовіч* і выключаны з партыі *Прышчэпаў*. 16.X. звольнены з становішча віцэ-старшыні Бел. Акадэміі Навук *Некрашэвіч* і з становішча сакратара тэйжа Акадэміі *Ластоўскі*. Гэ

кія моцныя адзінкі, як Дэмбінскі і Ендрыхоўскі. „Kurjer Wil." дапускае яшчэ, што вялікае значэньне ў іхнай эволюцыі мелі цяперашнія канфлікты і супярэчнасьці паміж двама фронтамі: камуністычным і фашыстоўскім, але і гэта яшчэ ня мела рашаючага ўплыву—кажа „Kurjer Wil.". Такім парадкам справа эволюцыі пагляд Дэмбінскага ў „Kurjery Wil." асталася нявырашанай. Дык папробуем яе вырашыць мы.

Мы зусім згаджаемся з паглядамі, што сяньняшнія грамадзкія і палітычныя канфлікты ня былі выключнай прычынай зьмены паглядаў Дэмбінскага, ў тым кірунку, каб яго паставіць на той бок барыкады. Хочучы дайсьці сапраўдных прычын зьмены пагляда ў і кірунку дзейнасьці Дэмбінскага, трэба ўзяць пад увагу тую атмасфэру, якая пануе ў нашым краі і аб якой толькі ўспомніў „Kurjer Wil.".

Дэмбінскі—гэта прадусім краёвец, у яго праявіўся вялікі сэнтымэнт да тутэйшасьці г. зн. беларускасьці — і гэты сэнтымэнт стаў галоўнай часткай яго душы. Другой характэрнай рыскай Д. быў ягоны каталіцкі ўнівэрсалізм. Каталіцтва само па сабе ёсьць унівэрсальнае і Д. шукаў у каталіцтве гэтага ўнівэрсалізму—і не знаходзіў. Польскае духавенства, якое зьяўляецца прадстаўнікамі і носьбітамі каталіцтва ў нашым краі, ня ёсьць унівэрсалістычным, а нацыянальна вузкім і замкнутым у польшчыне. Яно не магло прамовіць да ўнівэрсалістычнае душы Дэмбінскага, дык ён зьвярнуўся да іншага ўнівэрсалізму — марксоўскага. Толькі мы дзівімся, чаму Д. зьвярнуўся да ППС, якая марксоўскі ўнівэрсалізм такосама агранічыла польшчынай, як польскае каталіцкае духавенства агранічыла каталіцызм? У часе працэсу выявіліся ў Д. якраз гэтыя два элементы: тутэйшасьць і ўнівэрсалізм. На першы пагляд яны супярэчныя, аднак гэтакая супярэчнасьць (прывязаннасьць да роднай „тутэйшасьці" і разам імкненьне да ўнівэрсалізму) здараецца вельмі часта. Бо кожны ўнівэрсалізм вырас і жыве ў нейкай тутэйшасьці. У Дэмбінскага гэтая тутэйшасьць ёсьць беларускай.

Уважаем, што атмасфэра, якая пануе ў нас, ёсьць галоўнай прычынай заламаньня такіх гарачых і консэквэнтных натур, да якіх належыць Дэмбінскі і якія рвуцца да „радыкальнай" працы. Сколькі іх ужо заламалася, а сколькі яшчэ заломіцца?

Аднак „атмасфэру" трэба браць ня толькі ў дрэнным значэньні, але і ў добрым. У добрым значэньні мы разумеем тую атмасфэру, якая існавала і існуе на нашых землях, іменна любоў да тутэйшай беларускасьці. Гэтая любоў застаўляе болей чулыя і думаючыя адзінкі ар'ентавацца і спагадаць беларускаму народу. Хто ведае, якім быў-бы і як пісаў-бы цяпер Сыракомля або Міцкевіч, каб жылі ў цяперашні часох і саткнуліся з беларускім адраджэньнем? А сколькі цяпер маем вучоных, артыстаў і мастакоў, якія чуюць сэнтымэнт да Беларусі! Дык у будучыне трэба лічыцца з тым, што з пашырэньнем беларускага адраджэньня і ўсьведамленьня, штораз болей будзе адзінак, у якіх прабудзіцца сэнтымэнт да роднага краю. Дзеля гэтага мы ня дзівімся сэнтымэнту Дэмбінскага! У ім адазвалася беларуская тутэйшасьць і пачуцьцё спагаднасьці да гэтага народу.

*В. Г.*

## На беларускім грунце.

*(Агляд беларускага жыцьця).*

### „Бел. Фронт" на 1938 год.

У гэтым годзе „Б. Фронт" будзе надалей служыць інтарэсам Бел. народу, так як служыў дагэтуль. Нашы мэты астаюцца такімі, якімі мы іх прадставілі на пачатку нашага выдавецтва, ў першым нумары „Б. Фр." з дня 12 чэрвеня 1936 г. Мэты нашы такія: 1) разьвіваць і паглыбляць у бел. народзе незалежную, вольную ад чужых уплываў, ідэолёгію, 2) вырабляць і паддзержываць веру ў свае ўласныя бел. сілы, 3) змагацца з усякімі чужацкімі ўплывамі і агентурамі ў беларускім народзе, якія разьядаюць наш народ і зьбіваюць яго з правільнага шляху, 4) інфармаваць бел. грамадзянства аб палітыцы беларускага і іншых народаў з беларускага пункту гледжаньня. Прыгэтым будзем далей распрацоўваць беларускую палітычную і грамадзкую думку, паглыбляць яе ў народзе і гэтым тварыць правільную палітычную лінію. Спосабам да гэтага будуць разважаньні ня толькі над бел. палітыкай, але і над палітыкай іншых народаў, над іх адносінамі да беларусаў, над іх палітычнымі і дыпляматычнымі ходамі. Пазнаючы чужую палітыку, будзем вучыцца, як тварыць сваю. Бо трэба каб бел. народ зразумеў сваю палітычную лінію, трэба, каб пазнаў палітычныя шляхі, а над усё свае гістарычныя мэты. Сусьветныя падзеі цяпер ідуць вельмі скора, гэтыя падзеі датычаць усіх народаў, а ў тым ліку і народу беларускага. Трэба гэты народ усьведамляць і падгатаўляць яго да вялікіх падзеяў, якія яго чакаюць.

Але вялікай перашкодай у гэтых нашых намерах ёсьць рэдкае выходжаньне нашай газэты. Каб дакладна прадставіць сучасную палітыку, трэба былоб выдаваць газэту прынамсі 2 разы ў месяц! Аднак мусім з сумам сьцьвердзіць, што на часьцейшае выдаваньне газэты пакульшто пазволіць сабе ня можам, а лепш кажучы, не пазваляюць нам нашы матар'яльныя варункі. Прасіць у чужых помачы ня хочам, а свае сілы яшчэ заслабыя, затым будзем выдаваць газэту і далей раз на месяц. Уважаем, што лепш выдаваць радзей і быць незалежнымі, чым часьцей і быць залежнымі. Спадзяёмся, што беларускае грамадзянства падтрымае нас у нашай працы, прысылаючы нам помач, ахвяры і складкі. А мы будзем старацца зрабіць усё, паводле нашых сілаў, каб газэту паставіць на належнай вышыне і гэтак адказаць пастаўленым намі мэтам. Прыгэтым Рэдакцыя перасылае ўсім нашым Чытачом, Прыхільнікам і Прыяцелям найшчырэйшыя Навагоднія пажаданьні.

### Аб Слуцкім паўстаньні.

Дня 11.XII.37. у Бел. Студэнцкім Саюзе інж. Бусел прачытаў лекцыю аб Слуцкім паўстаньні проціў бальшавікоў, у 17-я ўгодкі гэтага паўстаньня. Інжынер Бусел, як учасьнік паўстаньня, прадставіў пачатак, ход і канец гэтага паўстаньня, апіраючыся ня толькі на сваіх успамінах, але такжа на дакумантах. Прыгэтым інж. Б. зьбіваў пагляды тых беларусаў, якія пашыраюць пагляд, што Слуцкае паўстаньне — гэта работа вонкавых сілаў, у гэтым выпадку польскіх. Прэлегент дакумантальна даказаў, што такі пагляд памылковы і Слуцкае паўст. зьяўляецца самастойным актам бел. народу да волі і незалежнасьці.

### Канцэрт бел. песьні.

12.XII. у Віл. Унівэрсытэце адбыўся канцэрт бел. песьні, ладжаны БСС у Вільні. Выступаў ведамы саліст М. Забэйда-Суміцкі і хор Шырмы. Канцэрт удаўся. Білеты былі ад 50 гр. да 5 зал., мусіць дзеля гэтага першыя мясцы былі пустымі. Далей заля была поўная.

### Ёлка ў беларускіх студэнтаў.

Перад выездам на каляднія сьвята група студэнтаў, згуртаваных каля часапісу „25 Сакавіка", ладзіла дня 12. XII. 37. ёлку і сымбалічную каляднюю вячэру. Ставіліся грамадой студэнткі і студэнты, каб у таварыскім кружку, злучаныя супольнай ідэяй, пры супольнай радасьці і мігаценьнях стройнае ёлачкі, пры сымболіцы аплатка, шукаць духовага падмацаваньня ў штодзённай барацьбе за свае індывідуальныя і нацыянальныя мэты. Вечар зрабіў вельмі сымпатычнае, настраёвае ўражаньне. Тут адчувалася гэтую вялікую веру беларускага маладняка, веру ў перамогу Праўды, дзеля якой нарадзіўся Хрыстос. Прамаўлялі *Кс. др. Ст. Глякоўскі* і *студ. В. Папуцэвіч.* Прамоўцы

---

та ўсё дзеялася ў 1929 годзе. У гэтым-жа годзе наладжваюцца працэсы проціў беларускіх дзеячоў, на гэтых працэсах Марук, Цьвікевіч, Ільлючонак, яшчэ як сьведкі, цьвярдзяць, што жорсткая барацьба партыі з нацыянал-дэмакратызмам — гэта барацьба з беларускасьцю, што гэта праяўленьне вялікарасейскага шовінізму („Сав. Беларусь" № 250, 1929 г.). За найболей „крамольныя" кнігі камуністы ўважаюць: „Лісты да сабакі і ад сабакі" — Пушчы; „Вецер з усходу" — Глыбоцкага, „Камісары" Цішкі Гартнага і „Крывічы" — Зарэцкага.

У наступным 1930 г. прыходзіць яшчэ большае завастрэньне курсу адносна беларусаў і 30.XI. арыштоўваюць выдатнейшых бел. культурных працаўнікоў і пісьменьнікаў: *Лёсіка, Некрашэвіча, Ластоўскага і Смоліча* (усе чатыры сябры Бел. Акадэміі Навук); далей арыштаваны: рэктар Менскага унівэрсытэту *Пічэта*, прафэсары: *Энімах-Шыпіла, Гарэцкі* (аўтар гісторыі бел. літаратуры), *Прышчэпаў, Адамовіч, Баліцкі, Красоўскі, Цьвікевіч, Савіцкі, Багдановіч, Бузук, Піотуховіч;* пісьменьнікі: *Дудар, Зарэцкі, Пушча, Лужанін* і шмат іншых. Большасьць высланы ўглыб Расеі, а некаторыя растраляны (Прышчэпаў). У лютым 1931 г. кончыць „самагубствам" старшыня Бел. Акадэміі Навук *Ігнатоўскі* (сябра кампартыі). На пачатку 1936 г. прыйшла ў Вільню вестка аб сьмерці В. Ластоўскага (аўтара „Гісторыі Беларускай Кнігі"), які уцякаў з Саветаў, але каля Адэсы быў злоўлены і растраляны.

Асабліва цяжкі для беларусаў у Сав. Беларусі быў 1937 год. Быў арыштаваны З. Жылуновіч, першы старшыня ўраду Сав. Беларусі (1919 г.), а такжа шмат пісьменьнікаў, як Хадыка, Сташэўскі, Баранавых, Вольны, Званок, Скрыган і іншыя. Кончыць „самагубствам" *А. Чарвякоў*, „прэзыдэнт" Сав. Беларусі; арыштаваны камісар асьветы *А. Дзякаў, В. Шчарбакоў* — гісторык і сябра Акадэміі, Кучынскі, Ляўданскі, Каляда, Кернажыцкі — гісторыкі, Галадзед — старшыня ўраду БССР і многа іншых, аб якіх мы пісалі у н-рох 8 і 9 „Б. Фр." у мінулым годзе. У апошнім часе „чыстка", як чуваць, яшчэ ўзмаглася. Але прозьвішчы іх мала ведамы дый да нас яны цяпер не даходзяць.

Але апроч гэтых, пацярпелі яшчэ і „*нашыя*" бел. дзеячы, што ў сваім часе былі выехаўшы у Саветы, як *грамадаўцы і змаганцы.* З гэтых *Рак-Міхалоўскі і Дварчанін*, растраляны (абодвым, асабліва першаму, закідалі шпіёнства і кантакт з польскай разьведкай), іншыя: *Валошын, Мятла, Бурсэвіч, Крынчык, Гаўрылік, Валынец, Грэцкі* сасланы ўглыб Расеі або на Салоўкі. З іх у мінулым годзе памёр на Салоўках *Пётр Мятла*, адзін з сапраўды чэсных і добрых бел. дзеячоў. З прычыны свайго спакойнага і ціхага характару ён у ссылцы пераносіў многа прыкрасьцяў: яго абкрадалі і білі. Што сталася з *Карузай*, які быў выехаўшы ў Саветы, няма ведама, паводле адных вестак ён сасланы, а паводле другіх — растраляны. КПЗБ была выдаўшы ў 1934 г. брашуру, у каторай было сказана, што Каруза „зьліквідаваны", але як — не паказана.

Асаблівая доля спаткала *Тарашкевіча.* Двойчы асуджаны польскім судом на цяжкую кару турмы, ён быў выменены Саветамі ў 1934 г. на Аляхновіча. Зараз пасьля пераезду граніцы яму не дазволілі жыць на Беларусі, але саслалі ў Маскву, дзе далі яму (філёлёгу!) нейкую эканамічную працу. А цяпер і яго зьліквідавалі: паводле адных вестак яго саслалі ў Іркуцк, а паводле другіх — растралялі. Ведамы жыдоўскі публіцыст Рэгніс у варш. „Naszym Przeglądzie" (27.XII.37) зьмясьціў вялікі артыкул пад загалоўкам „Bronisław Taraszkiewicz", дзе абгаварыў ягоную дзейнасьць у польскім сойме і цяперашнюю долю. Калі Т. зьявіўся ў сойме, яго ўзялі ў апеку павадыры польскай лявіцы, бо відзелі ў ім дзеяча, які злучаў вызваленьне Беларусі з фэдэрацыйнымі клічамі пілсудчыкаў. Тарашкевіч шукае кантакту з ген. Сікорскім, Тугутам, думаючы, што бел. справа рушыць з месца і што жаданьні, якія былі часткова браны пад увагу ў Сярэдняй Літве, будуць тымболей браны пад увагу польскай лявіцай. Але скора расчараваўся. Тады пайшоў у другі бок і апынуўся ў Саветах...

Апісываючы долю Т. у Саветах, Рэгніс апіраецца на брашуры Закоўскага, кіраўніка Ленінградзкага ГПУ, які Т. залічвае да правакатараў, прысланых з заграніцы. Яшчэ ў 1935 г. Беларуская Грамада была залічвана камуністамі да рэвалюцыйных партыяў, а ў 1937 г. Закоўскі глядзіць на гэту партыю, як на твор правакацыі. „Шпікі... былі высунуты на павадыроў—кажа Закоўскі. Выступалі яны ў сойме з левымі прамовамі, быццам зьвернутымі проціў польскай буржуазіі, каб стварыць від, што ў Сойме існуе левае крыло, а ў сапраўднасьці ўсё гэта была інсцэнізацыя, работа рук разьведкі". Потым гэтыя „ахвяры разьведкі" былі перакінуты на Беларусь, каб там рабіць шпіёнскую і дыверсыйную работу...

У брашуры Закоўскага сказана, што Тарашкевіч зьліквідаваны. Якім парадкам — пакульшто няведама. Рэгніс у сваім артыкуле кажа што „ewolucja tego działacza ludu białoruskiego odzwierciadla tragedię jego narodu". Справядлівыя словы! Можа на ніякім беларускім дзеячы дагэтуль не адбілася так трагедыя беларускага народу, як на Тарашкевічы! Яго лятуценьні аб прафэсарскай катадры, заняцьці становішча рэктара бел. ўнівэрсытэту або і старшыні бел. Акадэміі навук разьвеяліся як дым. Жаданьне служэньня навуцы і свайму народу скончылася новым гніцьцём у турме, каб потым зьнікнуць з паверху жыцьця і заслужыць яшчэ у нагароду на такую „характэрыстыку" Закоўскага — канчае Рэгніс.

* * *

Гэта ўсё дзеецца 20 гадоў пасьля разгону Усебеларускага Кангрэсу. Тады камуністы здушылі волю Беларускага народу на самаазначэньне, а цяпер „ліквідуюць" беларускую інтэлігенцыю, высяляюць углыб Расеі ўсіх дзейных беларусаў, каб зьліквідаваць і беларускую справу. Але дарэмна: беларускай справы ўжо ніхто не зьліквідуе. Усе ахвяры дзеля Беларусі дарма не прападуць! А ахвяры, як бачым, вялікія!

*В. Г.*

---

*БЕЛАРУСЫ, калі хочаце ўсебакова пазнаць беларускую і сусьветную палітыку, выпісвайце „Беларускі Фронт"! Прысылайце складкі і ахвяры! Пашырайце газэту пасярод сваіх знаёмых!*

